Цана асобнага нумару 300.000 м.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3.600000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр. 250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 9. Вільня, Панядзелак, 30-га чэрвеня 1924 г. Год I.

## Чародны крок.

Розныя бываюць у розных людзей настроі, хаця і выкліканыя аднэй прычынай.

Гэтак, пад той час, як уся Заходняя Беларусь выяўляла сваю вялізарную радасьць з прычыны пашырэньня межаў Беларускае Сацыялістычнае Радавае Рэспублікі,—група ковенскіх беларусаў, згуртаваная каля „Крывіча“, на страніцах гэтае часопісі „разьдзірала шаты свае“, бачучы ў акце ачывістае важнасьці для беларускага дзяржаўнага і культурна-нацыянальнага будаўніцтва толькі . . . „новы падзел Беларусі“.

„Знает кошка, чьё сало с'ела“, можна бы сказаць аб гэных дзеячах, якія толькі і здольны былі дагледзіць у тым вялікім акце „падзел“: бо-ж пару гадоў таму назад іменна самі яны „дзялілі“ Беларусь (на шчасьце, толькі на паперы!), „падараваўшы“ Літве Віленшчыну і Горадзеншчыну....

Аднак, ня гледзячы на аднабокасьць падыходу „Крывіча“ да выпадкаў на Усходзе, нельга моўчкі прайсьці міма надрукаванае ў № 1 (7) гэтага журналу стацьці В. Л-скага пад загалоўкам „Новы падзел Беларусі“. Той факт, што, як аблічае „Крывіч“, Маскоўшчына „анэктавала“ каля 75.000 кв. вёрст беларускае тэрыторыі з 3 з лішкам міліёнамі душ насяленьня, якія не далучаны йшчэ да Радавае Беларусі,—запраўды, зьяўляецца для Беларускае Сацыялістычнае Радавае Рэспублікі вельмі шкодным. І мы пастараемся высьсніць, у чым тут справа.

Вось-жа кожная краіна, залежная, ці незалежная, зусім натуральна і справядліва імкнецца да *гаспадарчае самавыстарчальнасьці* ў сваіх межах, прынамся хаця бы ў адносінах да прадметаў першае патрэбы. Кожны край стараецца так наладзіць сваю эканамічную гаспадарку, каб мець свой хлеб і галоўныя фабрыкаты, без якіх абсалютна нельга абыйсьціся ў штодзенным жыцьці. І затым-то Беларусь яшчэ ў даваенныя часы, маючы даволі хлеба, старалася разьвіваць у сябе *прамысловасьць*.

Каб зразумець, якое значэньне наагул мае прамысловасьць для кожнага краю, скажам, што збору хлеба няма магчымасьці павялічываць у такой меры, як-бы мы хацелі: ён залежыць перш за ўсё ад абшару зямлі і на тым самым прасторы можа павялічывацца вельмі нязначна, хоць-бы нет ведама якія кошты былі зроблены дзеля падняцьця ўраджаю. Затое прамысловасьць можа разьвівацца, паскольку няма пабочных перашкод (канкурэнцыя суседзяў!), неабмяжована, можа лёгка павялічыцца ў два, тры, дзесяць разоў,—а гэта ізноў дае магчымасьць ператвараць у цэннасьці (тавары) нявычарпаны запас працы людзкой. І для Беларусі, дзе лічба насяленьня ўзрастае шмат шыбчэй, чым у Заходняй Эўропе (на 1.000 душ насяленьня прыбывае ў год 20 душ), разьвіцьцё прамысловасьці толькі і можа пракарміць на месцы штогодны прыбытак насяленьня.

Як-жа выглядае беларуская прамысловасьць?

Паводле даваенных даных, наша прамысловасьць была йшчэ толькі „ў пялёнках“. Але ўжо тады выявілася адна цікавая рыса ў разьвіцьці яе: прамысловасьць, ня зьвязаная беспасярэдня з сельскай гаспадаркай, найвышэй разьвіта была ў *Заходняй Беларусі* (Беласточчына, Горадзеншчына, Віленшчына); ідучы на Усход, яна ўсё паніжаецца (у Меншчыне ўжо шмат слабей); зусім нізка стаяла ў Віцебшчыне і Магілёўшчыне, ды йзноў узмацоўвалася *на крайніх усходніх узьмежжах* (Гомель, Бранск, Клінцы і інш.). І толькі тыя галіны прамысловае вытворчасьці, якія зьвязаны з хлебаробствам (вінакурні, мліны, фабрыкі дрожджаў, крахмалю, патакі і інш.), разьмешчаны былі па краю больш раўнамерна.

Вось жменя цыфр з перадваеннае статыстыкі (1906—7 г. г.), якія пацьвярджаюць вышэй сказанае:

*Горадзеншчына.* Лічба фабрык — 3,733 з 22.000 работнікаў і прадукцыяй на 23.600.000 руб. (золатам) у год. Галоўны прамысловы цэнтр—Беласток: у 1907 г. тут былі 334 фабрыкі з 6.000 раб. і вытворчасьцяй на $4^1/_2$ міліона руб., у тым ліку: ткальняў 175 з вытворчасьцяй на 374.000 руб., прадзільняў — 51 з вытворчасьцяй на 860.000 руб., фабрык сукна—18 з вытворчасьцяй на 670.000 руб. Апрача Беластоку, важнейшымі цэнтрамі прамысловасьці былі Крынкі з іх гарбарнямі і Берасьце з 78 фабрыкамі, 600 работнікаў і гадавой вытворчасьцяй на 360.000 руб.

*Віленшчына.* Лічба фабрык — 1,846 з 13.000 работнікаў і гадавой вытворчасьцяй на 17,335,000 руб. золатам. Галоўныя прамысловыя цэнтры — Вільня, Нова-Вілейск, Смаргоні.

*Меншчына.* У 1906 г. было ўсяго 464 фабрыкі з 10.000 работнікаў і прадукцыяй на 31.000.000 руб. золатам. Галоўныя цэнтры: Менск (45 фабрык), Пінск (21) і Бабруйск (20).

*Віцебшчына.* Галоўныя цэнтры прамысловасьці—Дзьвінск (на ўзьмежку з Латвіяй) і Віцебск. Лічба работнікаў—6.000, гадавая вытворчасьць—каля 7.000.000 руб. золатам.

*Магілёўшчына.* Яшчэ слабей за Віцебшчыну. Галоўны прамысловы цэнтр—Гомель.

Гэтак *Цантральная Беларусь*, якая зыходзіцца з межамі цяперашняе Беларускае Сацыялістычнае Радавае Рэспублікі, *блізу зусім ня мае сваей прамысловасьці:* Заходняя Беларусь (з Беластокам, Берасьцем, Крынкамі, Вільняй, Нова-Вілейскам, Смаргонямі) належыць да Польшчы, Паўночная (з Дзьвінскам)—да Латвіі, а крайнія *усходнія узьмежжкі* з такімі прамысловымі цэнтрамі, як Бранск і Клінцы, а таксама *Гомельскі павет* „анэктаваны“ вялікарусамі....

Такім парадкам *эканамічнае палажэньне* Беларускае Сацыялістычнае Радавае Рэспублікі ў сучасных яе межах прадстаўляецца *вельмі сумна.* І Менск, які ўжо зрабіў першы крок на дарозе *зьбіраньня Беларусі*, павінен паважна задумацца над гэтым і, загаспадарыўшыся на новадалучаных усходніх абшарах, сягнуць далей, — у першы чарод па Гомель, Бранск, Клінцы і рэшту усходніх акраін, прырэзаных да саюзнае і братняе Расейскае Сацыялістычнае Радавае Рэспублікі.

## Інтэрпэляцыі Беларускага Пасольскага Клюбу.

### ІНТЕРПЭЛЯЦЫЯ

паслоў з Беларускага Клюбу да п. Старшыні Рады Міністраў у справе невыпаўненьня ўрадам пастановы Соймавае Камісіі дзеля разгляду надужыцьцяў на „Крэсах“ у справе адбудовы разбуранае праваслаўнае царквы ў Новым Дварэ, Сакольскага пав.

21 верасьня 1921 году ў Новым Дварэ, Сакольскага пав., была адабрана ў праваслаўных царква. Зроблена гэта такім спосабам, каторы гвалціў і абражаў рэлігійнае пачуцьцё верных, а іменна:

У сьвята Нарадзін Найсьвяцейшае Дзевы Марыі, у часе сьвятое імшы, у царкву ўварваўся Аляксандар Бацьковскі, паліцыянт з тутэйшага пастэрунку, у шапцы на галаве і з вінтоўкай на плячы і голасна зажадаў спыненьня адправы і выхаду ўсіх з царквы, бо ён павінен зачыніць яе.

Ня гледзячы на просьбы верных не перашкаджаць ім маліцца, паліцыянт цьвёрда дамагаўся выпаўненьня ягонага загаду, і, калі ўсе выйшлі, царква была зачынена.

З увагі на тое, што да найбліжэйшае царквы ад Новага Двара колькінаццаць кілямэтраў, тутэйшае праваслаўнае насяленьне дамагалася адкрыцьця незаконна зачыненае царквы, падаючы адпаведныя жалабы вышэйшай уладзе. Каб зрабіць немагчымым эвэнтуальны зварот царквы праваслаўным, яна была разбурана.

З прычыны такога беззаконьня мясцовае адміністрацыйнае ўлады Соймавая Камісія дзеля разгляду надужыцьцяў на „Крэсах“ прымушана была паехаць на месца дзеля высьненьня справы. Соймавая Камісія ўстанавіла, што мясцовая ўлада сваім пастунаньнем пераступіла свае кампэтэнцыі, учыніла надужыцьце над праваслаўнай люднасьцяй і зусім бясправўна пазволіла разбурыць царкву,—і дзеля гэтага прыняла адпаведную рэзалюцыю, заклікаючы ўрад да адбудаваньня на кошт скарбу незаконна разбуранае праваслаўнае царквы ў Новым Дварэ.

Ад дня прыняцьця гэтае рэзалюцыі мінуў ужо год, але справа адбудовы царквы стаіць яшчэ на месцы.

Дзеля вышэйшага ніжэйпадпісаныя пытаюцца ў п. Старшыні Рады Міністраў: 1) чаму ўрад дагэтуль ня выпаўніў рэзалюцыі Соймавае Камісіі ў справе адбудовы царквы ў Новым Дварэ? 2) Ці ўрад маніцца приступіць да адбудовы разбуранае царквы?

Варшава, 20 чэрвеня 1924 г.

### ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

паслоў з Беларускага Клюбу да пана Міністра Працы і Грамадзкае Апекі і да пана Міністра Ўнутраных Спраў—у справе **бязпраўнага недапушчэньня Старостай у Нясьвіжы зьбіраньня ахвяр на галодных беларускіх дзяцей—сірот.**

Самавольнае гаспадараньне адміністрацыйнае ўлады на Беларускіх Землях пераступае ўсе граніцы справядлівасьці і няраз даходзіць ня толькі да гвалтаваньня правоў тутэйшае людмасьці, але і да выразна процігуманітарных учынкаў, не адпавядаючых годнасьці культурнага чалавека.

Беларускае Таварыства помачы ахвярам вайны ў Вільні, якое апякуецца прытулкам з сотняй дзяцей — пераважна сірот па ахвярах сусьветнае вайны, упаўнамочыла Пётру Гаўрыка, жыхара вёскі Зарэчча, Гарадзейскае гміны, Нясьвіскага пав., зьбіраць у павеце ахвяры на карысьць бедных дзяцей—сірот.

Упаўнамочаны Гаўрык зьвярнуўся да Старосты ў Нясьвіжы аб пазваленьне на зборку ахвяр на карысьць беларускага прытулку. Староства зажадала прадстаўленьня паўнамоцтва і просьбы Беларускага Т-ва пом. ахв. вайны. Калі ўсе фармальнасьці 23 лютага г. г. былі выпаўнены, дык Староста сказаў, што перашле пазваленьне праз гміну.

Цераз некалькі месяцаў Староста не пазволіў Гаўрыку зьбіраць ахвяры на галодных беларускіх дзяцей і сканфіскаваў паўнамоцтва, выданае Беларускім Таварыствам пом. ахв. вайны.

Дзеля вышэйшага ніжэйпадпісаныя пытаюцца ў п.п. Міністраў: 1) На якой падставе нясьвіскі Староста забараніў Белар. Т-ву пом. ахв. вайны зьбіраць ахвяры на галодных дзяцей-сірот? 2) Ці маняцца яны ўраз-жа загадаць Старосьце ў Нясьвіжы даць усялякую дапамогу і аблягчыць справу зьбіраньня Гаўрыкам ахвяр для беларускага прытулку?

Варшава, 27 чэрвеня 1924 г.

# Разлом у Соймавым Клюбе польскае партыі „Wyzwolenie“.

Ужо аддаўна, амаль не з пачатку працы ў цяперашнім Варшаўскім Сойме, адчувалася пэўная розьніца ў паглядах паміж wyzwoleńcami з Конгрэсовай Польшчы і некаторымі вызваленцамі з нашых беларускіх земляў. Розьніца гэта палягала на тым, што сябры партыі „Wyzwolenie“, але па нацыянальнасьці беларусы, як Шакун, Балін, Шапель і Галавач, адчувалі драму з тае прычыны, што апынуліся яны ў партыі польскай, якой ня так блізка да сэрца нашае беларускае сацыяльнае і нацыянальнае гора. Чулі яны сябе чужымі ў гэтай польскай партыі, але трымаліся чамусь-ці ўсё-ж такі там, складаючы левае крыло „Wyzwolenia“.

Прадстаўляюць яны ў „Wyzwoleniu“ невялікую групу, якая ня мела ды і ня можа мець жаднага ўплыву на ўсю партыю, якая складаецца амаль ня выключна з палякоў. Як ні чужой лічылі памянёныя дэпутаты для сябе польскую партыю „Wyzwolenie“, аднак не хватала ў іх грамадзкай мужнасьці, каб раз назаўсёды парваць з чужой для іх польскай партыяй, выйсьці з яе і далучыцца да Беларускага Пасольскага Клюбу, які ставіць свае адносіны да польскае палітыкі на беларускіх землях зусім ясна і адкрыта. І заставаліся беларусы Шакун, Балін, Шапель і Галавач у „Wyzwoleniu“, зьяўляючыся там чуць не другаразраднымі дэпутатамі ў Соймавым Клюбе. Зносілі яны гэткае свае палажэньне, ў працягу амаль не $1^1/_2$ года. Праўда, прарываўся ў іх пратэст беларускай душы, праяўляўся свой краёвы народны патрыятызм, але заглушаўся ён большасьцю сяброў партыі—палякоў, на чале якіх стаіць Тугут.

Але вось, ў палавіне чэрвеня г. г. здарыўся выпадак, які ясна паказаў, як адносяцца палякі ў „Wyzwoleniu“ да Баліна і яго таварышоў. І факт гэты стаўся вядомым усім, бо адбыўся у залі паседжаньняў Сойму, а не ў памешканьні клюбу „Wyzwolenie“, адкуль падобныя факты, хоць калі яны там і адбываліся, то ня бачылі сьвету. Цяпержа ўсё гэта выплыла на сьвет, і не вядома — ці ўхітрыцца Тугут і далей трымаць іх пры сабе.

У часе прамовы ў Сойме генарала Сікорскага, вайсковага міністра, у той час, як міністар зачапіў пытаньне аб асадніцтве на „Kresach Wschodnich“, з лаваў Беларускага і Украінскіх Пасольскіх Клюбаў паляцелі крыкі пратэсту проці асадніцтва. У гэты-ж момант—як вызваленцы ўсе маўчалі—раптам пачуўся праразьлівы выкрык Галавача па адрасу міністра аб асадніцтве на беларускіх землях. У адзін міг падскочыў да Галавача паляк-вызваленец палкоўнік Медзінскі і закрычаў: „Milcz, bydle, bo zast zelę!“ г. зн. „Маўчы, быдла, а то застрэлю“. Другі паляк-вызваленец М. Маліноўскі пачаў у гэты-ж час тузгаць за каўнер Баліна, які таксама крыкнуў нешта наконта асадніцтва.

Пасьля гэтага інцыдэнту адбылося бурлівае паседжаньне дэпутатаў клюбу „Wyzwolenie“. Можна было думаць, што пры наліччы прынцыповых разыходжаньняў Баліна і яго таварышоў з агульнай лініяй палітыкі „Wyzwolenia“ і пасьля тэй зьнявагі, якую дасталі яны ад палякоў-вызваленцаў, — яны выйдуць з „Wyzwolenia“. Цьвердзілі ўрэшці, гэта і самі абражаныя, бо адчулі яны добра, што прычынай гэткай зьнявагі было тое, што жывець яшчэ ў іх пачуцьцё беларускага патрыятызму,—і за гэта іх зьняважаюць ў польскай партыі.

Не бяромся мы прагракаваць, ці возьмець верх у абражаных пачуцьцё свайго гонару, любасьць да свайго народу, а значыць і выхад з „Wyzwolenia“, ці возьмець верх страх перад панамі Тугутам, Медзінскім і інш. і выгоды прыналежнасьці да польскае партыі. Жыцьцё пакажаць. У кожным разе можам сьмела зазначыць, што шчыліна паміж псыхолёгіяй і патрыятызмам беларуса і паляка ў „Wyzwoleniu“ ўсё павялічваецца, і той духовы разлом, які цяпер пануе ў „Wyzwoleniu“, можа давесьці да таго, што левая частка „Wyzwolenia“ пакінець гэтую партыю. Зусім магчымым зьяўляецца выхад з „Wyzwolenia“ да 15 асоб, з якіх частка (беларуская) можа далучыцца да Беларускага Пасольскага Клюбу, а рэшта (палякі) маюць зарганізаваць у Сойме клюб польскіх незалежных сацыялістаў. Ёсьць пэўныя погаласкі, што гэты разлом у „Wyzwoleniu“ адбудзецца цяпер, да канца працаў Сойму перад летнімі вакацыямі.

**N.**

# Прароцтвы Зіноуева.

На пятым кангрэсе Камінтэрну ў Маскве Зіноўеў, напомніўшы прароцтвы 4 кангрэсу аб набліжэньні дэмакратычнае пацыфістскае эры ў Эўропе і магчымасьці пераходу ў Англіі ўлады да работніцкае партыі, а ў Францыі—левага блёку,—сказаў:

„Пятаму кангрэсу прыдзецца прарочыць, што *на зьмену гэтае эры прыйдзе эра рэакцыі і фашызму*“.

Зіноўеў глядзіць на левыя ўрады ў буржуазных гаспадарствах, як на саюзьнікаў буржуазіі—яе левае крыло, і заклікае да барацьбы з ухіленьнямі ўправа сярод некаторых партыяў Інтэрнацыяналу.

# Палітычныя падзеі.

## Яшчэ праекты камісіі „крэсавых экспэртаў“.

Камісія „крэсавых экспэртаў“, пакліканая, як ведама, асабіста п. Грабскім, паводле яго асабістага смаку і складаючаяся з п. Стан. Грабскага, лідэра эндэкаў, п. Тугута, лідэра вызваленцаў, і яшчэ двух „спэцыялістаў па Малапольшчы“, выпрацавала ўжо тры, ці нават чатыры праекты новых законаў для меншасьцяў.

Першы праект датычыць карыстаньня ўкраінскай і беларускай мовай (газэты няправільна падавалі аб расейскай і літоўскай) у адміністрацыі і самаўрадах; другі праект датычыць карыстаньня гэтымі мовамі ў судзе; трэці датычыць беларускай і ўкраінскай школы; чацьверты праект, вельмі голасна рэклямаваны афіцыяльным агенцтвам, (відаць, „на вываз“—за граніцу...), як прынцыповае вырашэньне справы обыватэльства на Ўсходніх Крэсах паводле Вэрсальскага Трактату, дае п.п. старостам права, калі яны хочуць і лічуць магчымым, даваць обыватэльства, пашыраючы трохі выпадкі, калі жыхары маюць права зьвярнуцца з адпаведным паданьнем.

Кажуць, быццам два першыя праекты ўжо зацьверджаны радай міністраў. Дзіўна аднак жа, як гэта п. Тугутт згадзіўся працаваць у цішы і пацёмках канцэлярыі мін. ўнутраных спраў, не патрэбаваўшы публікаваньня дыскусіяў камісіі. Паны пэпэзсаўцы аказаліся больш адпавядаючымі годнасьці народнага прадстаўніка і адмовіліся ад учасьця ў гэтай „камісіі пры п. Гюбнэры“. Бо-ж і для дзіцяці ясна, што новыя ўставы будуць выпаўняцца адміністрацыяй акурат таксама, як цяпер выпаўняецца ею польская канстытуцыя...

## „Радыкальныя“ перамены ў адміністрацыі Усходніх Крэсаў.

Нарэшце п. Гюбнэр з п. Грабскім выпрацавалі плян „рэарганізацыі“ вышэйшай адміністрацыі на „Крэсах“.—Віленскі Округ будзе перайменаваны ў Віленскае ваяводзтва, а п. дэлегат у ваяводу... Пан ваявода Рачкевіч пераедзе ў новую рэзыдэнцыю Навагрудзкага ваяводзтва: у Слонім, а Палескае ваяводзтва астанецца ў Берасьці над Бугам.

Пакуль што, можа, і даволі?..

## „Адстаўка“ міністра ўнутраных спраў.

Дзеяльнасьць Міністэрства Унутраных спраў і залежнай ад яго дзяржаўнай адміністрацыі і паліцыі, асабліва скандальная на „Крэсах“, — была добра асьветлена і ацэнена ў Сойме. У выніку дыскусіі міністар унутраных спраў Гюбнэр атрымаў пры галасаваньні бюджэту яго міністэрства вотум недаверыя Сойму.

Гэта было выражана тым, што была прынята большасьцю 1 голасу дэманстратыўная прапазіцыя, каб з бюджэту мін. унутр. спраў скінуць сто злотых са штатаў дзяржаўнай паліцыі.

Вынікі гэтага галасаваньня вітаны былі крыкамі: „у адстаўку, міністар!“.

П. Гюбнэр зразумеў канстытуцыйную форму выражэньня яму недаверыя і зараз-жа падаў прэм. Грабскаму прашэньне аб адстаўцы.

Але „аполітычны“ прэм'ер адказаў на гэтае прашэньне асабістым лістам да мін. Гюбнэра, у якім піша, што „даведаўшыся (ад каго?) аб характары галасаваньня нал бюджэтам мініст. унутр. спраў і паразумеўшыся з п. Прэзыдэнтам Рэспублікі“, ня лічыць магчымым даць гэтую адстаўку.

Цяпер ужо ня можа ні ў кога быць ніякага сумляваньня ў тым, што п. старшыня міністраў Грабскі ўзяў на сябе ўсю адказнасьць ня толькі за асобу пазбаўленага даверыя Сойму міністра, але і за ўсе тыя гвалты і зьдзекі адміністрацыі і паліцыі, якія былі раскрыты з Соймавай трыбуны, проці якіх у дыскусіі і ў галасаваньні 25-га чэрвеня востра і рашуча рэагаваў Сойм. Але, што яшчэ важней,—Грабскі бярэ на сябе поўную адказнасьць і за ўсё тое, што дзяржаўная паліцыя ў Польшчы будзе рабіць надалей, бо з таго, што прэм'ер з п. Прэзыдэнтам ня прынялі просьбы аб адстаўцы міністра, і ён і яго адміністрацыя і паліцыя зусім слушна і лягічна могуць вывясьці, што ўсё тое, што яны рабілі дагэтуль, яны могуць рабіць і надалей...

А гэта-ж значыць, што п. Грабскі і яго ўрад чуюць сябе зусім неадказнымі перад Соймам, а адміністрацыя і паліцыя можа пачувацца і зусім безадказнай наагул...

Здаецца, такіх „паўнамоцтваў“ Сойм габінэту міністраў і п. Прэзыдэнту Рэспублікі пакуль што яшчэ не даваў.

Ці згодзіцца з такім парадкам „сувэрэнны“ Польскі Сойм і ці здалее адстаяць сваю годнасьць і сваі правы па Канстытуцыі? Пажывем — пабачым...

## П. Грабскі ня прыняў і адстаўкі галоўнага камэнданта дзяржаўнай паліцыі.

У зьвязку з прыняцьцем Соймам дэманстрацыйнай прапазыцыі лявіцы аб скасаваньні з бюджэту дзяржаўнай паліцыі 100 злотых дзеля выражэньня недаверыя да ўсяго міністэрства ўнутраных спраў, падаўся ў адстаўку галоўны камэндант дзярж. паліцыі. Але прэм'ер Грабскі адстаўкі ня прыняў.

# „Wielka tradycja tolerancji polskiej“.

Як вядома, ў парыжскай газэце „Ere Nouvelle“ зьявілася нядаўна адозва з подпісамі відных францускіх прафэсароў, у якой зьмешчаны пратэст проціў зьдзекаў над палітычнымі вязьнямі ў Польшчы і г. д. Вось, польская прафэсура, каб не астацца ў даўгу, паслала ў Парыж калектыўную заяву—„пратэст проці пратэсту“, у каторым гаворыцца паміж іншым, што Польшча помніць уціск нядаўнай няволі свайго народу і ня ўціскае нікога, хацябы ў імя людзкасьці і вялікай **традыцыі польскай толеранцыі**.

Каб падобныя рэчы пісаў „Dziennik Wileński“ для сваіх набожных чытачоў,—нікога гэта ня дзівілаб; але, калі пішуць прафэсары, дык прыходзіцца застанавіцца: на якіх падставах гэтыя паны маюць адвагу казаць усяму сьвету, што колішняя Польшча давала волю грамадзянам інакш думаючым? Дый як гэта справа выглядае ў сьвятле гісторыі?

Каб адказаць на гэтыя пытаньні, трэба прыглядзіцца да некаторых фактаў і польскіх законаў, асабліва за часоў панаваньня трох апошніх каралёў.

Як у сучасны мамэнт Эўропу апанаваў нацыяналізм, так калісь вялося змаганьне на грунце рэлігійным.

Быў час, калі Польшча запраўды давала довады пашаны да інакш веручых. На жаль, час такі скончыўся, як толькі ў Польшчы запанавала каталіцкая рэакцыя, і калі езуіты захапілі ўплывы на жыцьцё гаспадарства.

Прыблізна з таго часу павісла над Польшчай, як грозная хмара, так званая **справа дысыдэнцкая**, каторая лягла чорнай плямай на страніцах польскай гісторыі часьці XVII і ўсяго XVIII сталецьця.

Ня гледзячы на тое, што, пачынаючы ад 1573 году, кожны пазьнейшы кароль прысягаў на Варшаўскую Канфэдэрацыю, даваўшую рэлігійную свабоду пратэстантам, мы бачым ужо ад 1658 г. нейкія агранічэньні: так, Ян Казімір не дапушчае пасла арыянца пацалаваць яго каралеўскую руку, дзякуючы чаму пасол быў прымушаны зрачыся свайго мандату. Сойм пры гэтым жа каралі вынес пастанову, вымагаючы ад арыянцаў, анабаптыстаў і квакроў перайсьці ў каталіцтва, ці іншую хрысьціянскую веру, або выехаць за межы Польшчы. Раней крыху, у 1632 годзе, забаронена часьцю будова пратэстанцкіх збораў і адпраўленьне набажэнства.

Нацыянальныя агранічэньні іноверцаў выпалі на панаваньне Аўгуста II і Аўгуста III Сасаў. На Сойме 1717 году зусім забаронена будаваць новыя зборы і загадана разбурыць тыя, якія збудаваны ў супярэчнасьці з канстытуцыяй. На Сойме ў Горадні ў 1718 годзе нейкі Анцута з Вільні дамагаўся адабраць права голасу віленскаму паслу некаталіку Пятроўскаму. Факт гэты разьмінаўся з правам і быў грозным прыкладам на будучыну. Найбольш, аднак, яркім доказам адсутнасьці спогаду некаталіком дае голасная справа ў Торуні. Цікава тое, што Торуньскі працэс відавочна скампрамітаваў Польшчу перад усей Эўропай, вызваў цэлы рад пратэстаў і ваенных пагроз ад суседзяў; аднак, палякі ня толькі ня спынялі зьдзекаў над іноверцамі, а, наадварот: новым гвалтам давалі праўную падставу. Фанатызм ад масаў пайшоў у вярхі і ўзмацоўваўся па меры таго, як Польшча слабела.

Торуньская Справа выглядае так: 15-га ліпня 1724 г. ў часе касьцельнай працэсіі вучні езуіцкай калегіі ў нахальны спосаб дамагаліся ад пратэстантаў выказаць ушанаваньне працэсіі. У сварцы пратэстанты захапілі з сабой вучня каталіка; каталікі гвалтам схапілі пратэстанта і павялі ў езуіцкую калегію.

У рэзультаце лютаране напалі на калегію. Вязьня звольнілі, абстаноўку зьнішчылі, а абразы і кніжкі каталіцкія спалілі. Ніхто жыцьця ня ўтраціў. Мястовая варта ў скандал не ўмяшалася, бо ў магістраце мелі перавагу пратэстанты, З прычыны гэтых выпадкаў пацягнулі пад канцлерскі суд віцэ-бурмістра Рознэра і іншых. Пастанаўленьнем суда засуджаны на сьмерць 9 пратэстантаў, іншым вызначана турма і розгі. Прыгавор быў сьпешна выпаўнены. Не памаглі ні просьбы езуітаў, ні інтэрвэнцыя Пятра Вялікага, ні нунцыя папскага Сантіні. Усе суседнія народы назвалі Польшчу найбольш фанатычным краем, хоць трэба прызнаць, што і ў другіх гаспадарствах дзеялася ня лепш. Рэзультатам працэсу быў трактат Расеі з Прусіяй, у каторым на першым пляне ставілася абарона дысыдэнтаў у Польшчы.

Усе з трывогай чакалі аружнага выступленьня страшнага суседа Пятра I; але сьмерць яго не дала зьдзейсьніць ягоныя пляны.

Трэба было-б думаць, што Польшча, напужаная і здыскрэдытаваная, апомніцца і завядзе перамены на лепшае адносна дысыдэнтаў; аднак мы бачым, што гэта Крывавая Лазьня (Thorner Blutbad) дадала йшчэ больш ахвоты душыць некаталікоў. Доўгі час пасьля Торуньскага працэсу паслы ў Сойме пачыналі прамовы, дзякуючы Любам'рскаму, што „ўратаваў гонар Маткі Боскай“. Гэта знача, што прылажыў руку да пакараньня сьмерцяй Торуньскіх мяшчан.

**А. Білевіч.**

(Канец будзе).

